ВАРШАЎСКІЯ НАТАТКІ-2: СУСТРЭЧА З З.ПАЗЬНЯКОМ

# Спачатку — Беларусь!

Мы перажываем імклівы і дзіўны час. Тое, што ўчора лічылася ў асяроддзі "рафініраваных" палітыкаў выдумкай "нацыяналістаў" (напрыклад, імкненне Лукашэнкі ў Крэмль), сёння прызнаецца за "агульнае месца" нават у абывацельскіх гаворках вакол палітыкі. Нашы ўчарашнія "сподвижники" прэзідэнта, поўнасцю падзяляўшыя ягоны курс на інтэграцыю з усходнім суседам (з папраўкай, праўда, на інтэлігентнасць яго правядзення), цяпер найгучней за ўсіх клапоцяцца на мітынгах і ў размовах з маскоўскімі "дэмакратамі" аб суверэнітэце краіны. Людзі, не верыўшыя ў магчымасць рэпрэсій (як можна ў цэнтры Еўропы, у наш час, пры "дэмакратычным" расійскім суседзе), зараз разгублена і напалохана ўглядаюцца ў тэлекадры амонаўскага збіцця мірных дэманстрантаў і са здзіўленнем даведваюцца аб судах над былымі "спікерамі" за іх шэсце па сталіцы ў дзень Канстытуцыі.



...Усё гэта звенні адной, калі так можна сказаць, праблемы. Праблемы наяўнасці або адсутнасці прынцыпаў і разумення або неразумення таго, што гаворка ідзе не аб геапалітыцы, эканоміцы і нават не аб дэмакратыі, а найперш і папросту — аб Беларусі... Не памятаю дакладна, каму з філосафаў належыць выказванне аб тым, што калі вы не хочаце прыняць пакуты за свае прынцыпы, вам давядзецца пакутваць за іх адсутнасць.

Будучы нядаўна па справах у Варшаве (нататкі аб гэтым у мінулым нумары ТМ), я сустрэўся з тым, каму, па-першае, належаць усе тыя (чытай вышэй) і іншыя палітычныя прадбачанні, якія выклікалі ў многіх неразуменне і нават варожасць, аднак заўсёды спраўджваліся; а па-другое, з тым, хто плоціць за свае прынцыпы. Цяпер плоціць вымушаным знаходжаннем за мяжой, што для такога чалавека асабліва цяжка і балюча. Затое (зазначым ад сябе) — жывы і на свабодзе.

У мяне да гэтага чалавека, Зянона Пазьняка, сваё стаўленне, якое я нікому не збіраюся навязваць. Адзначу толькі, што ўсё часцей, і мне гэта прыемна, чую ад людзей, якія яго не прымалі раней і не прымаюць зараз, прызнанні ў тым, што З.Пазьняка нельга абвінаваціць як мінімум у няшчырасці, хлусні або папулізме, якія сталіся, на жаль, дамінантамі беларускай рэчаіснасці. Толькі ж ці гэта "мінімум"?!

Крытыка яго сёння, як і раней, скіравана на тое, што ён "усё правільна разумее і гаворыць, але пры гэтым няправільна сябе паводзіць", — сведчыць аб тым, што гэтыя людзі на правільным шляху. Яшчэ крыху — і зразумеюць яны, што папрокі ў гэтым справядліва будзе адрасаваць не яму, а сабе самім. А там, глядзіш, за "прасвятленнем" паследуюць і ўчынкі.

Учынкі, палітычныя і жыццёвыя, —гэта тое, чаго ўвесь час не хапае нашым партыям, рухам, лідэрам, усім нам. Без учынку сыйшоў са сцэны Канстытуцыйны Суд, без учынку бясслаўна знік Вярхоўны Савет. На ўчынкі не здольныя ў нас ні рабочыя, ні дырэктары, ні прадпрымальнікі, ні прафсаюзы, ні сяляне, ні інтэлігенцыя. Адно і дзейнічаюць, што Народны Фронт і яго лідэр. Можа таму і час ад часу з памылкамі.

Не словамі і добрымі намерамі, а ўчынкам была іх згвалтаваная ўладай галадоўка ў зале ВС супраць незаконнага рэферэндуму. Учынкам было негаласаванне за сам інстытут прэзідэнцтва ў Беларусі, што, дарэчы, добра ілюструе сапраўднае "рвенне" З.Пазьняка да ўлады. Кожны раз учынкам з'яўляюцца мітынгі, шэсці і пікеты насуперак дубінкам, арыштам, штрафам і суткам.

Жыць так, як гаворыш — неверагодна цяжка. Такія людзі нездарма выглядаюць у абывацельскіх вачах дзівакамі, а тое і ненармальнымі. Нармальна ў нас зусім іншае. Жаліцца народу на сваю беднасць, не саромячыся рэкламаваць уласную сціпласць, — і раз'язджаць пры гэтым у шыкоўных мэрсэдэсах і лётаць у спецсамалёце. Клясьціся на Канстытуцыі абараняць краіну — і рабіць усё, каб яна знікла з геаграфічна-палітычных мапаў і нават з уяўлення і памяці сваіх суграмадзян... Астатнія "нармальнасці" проста сумна і лянотна пералічваць.

Ненармальна жыць, як гаворыш. Не саступаць прынцыпам. Захаваць сябе для краіны і для сябе, зразумела. Дастукацца са сваёй нязручнай праўдай да "сытых" замежных палітыкаў, каб звярнулі ўвагу на небяспечныя для цывілізацыі "беларускія працэсы". Жыць з жонкай не дома, а ў выпадковых кватэрах. Выпускаць газету і часопіс, карыстаючыся пазычанымі ў польскіх сяброў сціплым абсталяваннем і такімі ж грашыма. Штодзень пісаць артыкулы і даваць інтэрв'ю. Выступаць па ўсёй Еўропе перад палітыкамі ў афіцыйных залах і перад студэнтамі ў раскаваных аўдыторыях. Кіраваць Фронтам, у якім на сёння не ўсе аднадушна падтрымліваюць "думкі здалёк". Нарэшце ўзяць на сябе гарантыю і адказнасць за незалежнасць Бацькаўшчыны.

Цяпер, пасля гэтай заявы, гэтага рашэння, гэтага ўчынку — немагчыма забіць нашую незалежнасць, не забіўшы спачатку яе ГАРАНТА. Мне здалося пры сустрэчы ў Варшаве, што ён гэта разумее і да гэтага гатовы. Гэта не абмяркоўвалася, гэта чыталася ў вачах. І яго і жонкі.

А пакуль ён жывы і працуе на заўтрашнюю Бацькаўшчыну. Я не ведаю нікога, хто б так востра адчуваў і глыбока разумеў, што гэта такое —вольная Бацькаўшчына. І якой можа спатрэбіцца за яе цана. Ён жыве і дзейнічае на гэтай няўдзячнай ніве, пакуль яшчэ ёсць надзея. Яна ёсць. Кола разумеючых, што вольная Беларусь не гістарычны фантом і не "нацыяналістычная" выдумка, пашыраецца, на шчасце, з кожным днём. Не надта хутка, аднак незваротна і паслядоўна. Нам бы яшчэ дадаць ў гэты працэс учынкаў.

Словы ўсе вымаўлены. Праграмы і намеры сфармуляваны. Мэты акрэслены: адна краіна — адзін народ — адна мова.

Засталіся цяпер толькі ўчынкі на гэтым нялёгкім, але вартым жыцця шляху.

**Генадзь СУДНІК.**

# Дзякуй, "матухна-Расея"

Гэтымі днямі ў "белокаменной" адбываецца падпісанне чарговага "судьбоносного" інтэграцыйнага пагаднення паміж Беларуссю і Расеяй. Зрэшты, слова "судьбоносное" можна было б і не браць у двукоссе, бо мяркуемы саюз (будзе ён на практыцы ці не — гэта ўжо іншае пытанне) сапраўды ўплывае на лёс Беларусі як краіны, як незалежнай дзяржавы.

Аналізуючы гісторыю нашага Краю, прыходзіш да высновы, што ўсялякія "воссоединения-присоединения" і "саюзы" нашмат болей прынеслі шкоды нашаму народу, чымсьці карысці. Ды і збітая тэза аб спрадвечных каранях, аб агульным лёсе беларусаў ды расейцаў не вытрымлівае навуковай крытыкі. Падмацую гэтае сцвярджэнне вытрымкамі з працы класіка беларускага пісьменства Максіма Багдановіча "Белорусское возрождение", напісанай у 1914 годзе на рускай мове.

"...Уже к концу XIII ст. (по авторитетному свидетельству проф. Карского) белорусская народность выступает сформировавшейся в своих основных чертах, опередив в этом отношении народность великорусскую, которая, таким образом, не могла влиять на процесс возникновения ее. Отсутствие экономических скреп между ними, географические условия, изолировавшие Белоруссию от северо-восточных земель, — все это оставляло еще меньше места для какого-либо взаимодействия. Наконец, в том же XIII веке подошли они и к государственному распутью, что еще резче обособило их: Белоруссия целиком оказалась в границах Великого Княжества Литовского, а великорусские области сгруппировались вокруг Москвы. С этого времени жизнь обоих данных народов, равно как и исторические судьбы их, надолго утрачивают всякую общность.

Что касается великорусского народа, то ход его развития общеизвестен. Ассимилировав массу финских племен, усвоив их приспособленный к окружающим условиям бытовой уклад и, следовательно, отклонившись от исконного славянства как антропологически, так и культурно, он в довершение всего пережил эпоху татарщины и оказался почти совершенно отрезанным от Западной Европы.

Судьбы Белоруссии сложились иначе. Войдя полностью в состав Великого Княжества Литовского, она ощутительно перетянула тяжестью своей культуры на весах истории Литву и, приобретя над ней приоритет, продолжала развиваться на своих древнеславянских корнях... Государственная жизнь ВКЛ проявлялась в белорусских национальных формах. На белорусском языке творился суд, по-белорусски писались акты и грамоты, велись сношения с иностранными государствами, белорусский же язык, наконец, являлся обиходным для великого князя и его придворных. Но закрепление и развитие старых культурных основ являлось лишь одной стороной в процессе поступательного движения белорусской национальности. Быть может, не менее крупное значение имело ее сближение с Западной Европой, с которой она издавна вела оживленные сношения благодаря связям как географическим, так и экономическим. Это сближение тем более следует отметить, что именно с этой поры в выработке белорусской культуры участвует не только серая деревня, но и торговый город европейского типа, город, организованный на принципах магдебургского права. Он сделал белорусскую культуру более красочной, многогранной, ввел ее в оборот западноевропейской жизни и стал, таким образом, передовым форпостом Западной Европы на востоке..."

Вось гэткае меркаванне беларускага літаратара. А колькі падобных сведчанняў у гісторыкаў. Усе яны скажаюцца зараз і затушоўваюцца ідэалагічнымі заклінаннямі на тэму аб "расцвете Белоруссии в большой семье советских народов"...

Сапраўды, "цвели"... Спачатку расейскія бальшавікі ў 1921 годзе адкупіліся ад Польшчы беларускімі землямі. Потым, у 30—50-я гады, "цвели" беларусы ў Сібіры, на Калыме, Салаўках. "Цвела" нашая мова, ды гэтак "расцвела", што на пачатку 80-х беларускія школы засталіся толькі ў вёсках і дагэтуль знішчаюцца.

Не буду стамляць чытача доказамі сваёй рацыі. Пры жаданні кожны сам зможа працягнуць гэты спіс балючых фактаў "вечнай дружбы". Ну, а дзеці і ўнукі нашы яшчэ пажнуць у свой час вынікі сённяшняй "інтэграцыі"...

**Юрась ПІВУНОЎ.**

# У кампраметуючых сувязях не прыкмечаны

Днямі адбылася гарадская канферэнцыя Саюза прадпрымальнікаў і падаткаплацельшчыкаў. Яго мінулым годам утварыў у нашым горадзе вядомы юрыст, прадпрымальнік і падаткаплацельшчык Юры Падольскі. Ён, зразумела, выступіў і з дакладам, у якім даволі трапна, дакладна і нават не без іроніі ахарактарызаваў плачэўны стан прадпрымальніцтва, якое гіне ў нас не само па сабе, а ў выніку абыякавасці і шкодніцтва з боку ўладаў.

Пры гэтым, праўда, Ю.Падольскі ўпарта падкрэсліваў, што з мэрам Д.Сівіцкім гораду пашанцавала, а вось з іншымі работнікамі гарадскога "апарату кіравання" — не. Прадпрымальнікам не пашанцавала і з палітычнымі партыямі, асабліва такой, як Беларускі Народны Фронт. У яго праграме эканамічныя пытанні распрацаваны глыбока, дэталёва і правільна. Аднак цяперашняя ўлада Фронт не любіць і таму мець з ім дачыненні, як зрэшты і з іншымі дэмакратычнымі партыямі, рызыкоўна. Тэзу аб тым, што не трэба высоўвацца і падстаўляцца, рашуча падтрымаў і развіў мінскі госць, старшыня адлаведнага Саюза. Па лексіцы і выгляду рэспубліканскі кіраўнік гэтага фарміравання — тыповы палкоўнік, якіх цяпер так шмат у прэзідэнцкім атачэнні. Ён давodзіў прысутным, што ад улады трэба перад ёй і адстойваць нейкіх сваіх "спецыфічных" правоў. Ёй трэба спадабацца, ёй трэба штодзень дэманстраваць лаяльнасць, з ёй трэба сябраваць — і тады можна выжыць.

Слухаючы гэткія разважанні, думалася вось аб чым. Як даведаецца ўлада, што вось гэтыя, напрыклад, прадпрымальнікі і ёсць свае, калі "антыкапіталістычную" палітыку яна вядзе не выбарачна, а шырокім фронтам і з прынцыповых пазіцый? Да каго ісці сумленным прадпрымальнікам і падаткаплацельшчыкам са сваімі праблемамі і патрабаваннямі — у свой саюз (дык там сабраны адны лаяльныя), да дэпутатаў гарсавета (у ім засядаюць настаўнікі і ўрачы, а не эканамісты), да выканкому ( адтуль ніхто не ўдастоіў сваёй увагай пазначаную канферэнцыю), да "нерадыкальных партый" (дык такая ў нас толькі адна —камуністычная, для якой словы "уласнасць" і "прадпрымальніцтва" не эканамічныя катэгорыі, а лаянка)?!

Атрымліваецца такім чынам, што трэба або разыходзіцца, або ўсё ж заводзіць палітычныя "кампраметуючыя сувязі". На канферэнцыі вырашылі, аднак, не рабіць ні таго, ні іншага. Гэта і было на ёй самае цікавае.



*Жывая візітная картка святочнага горада.*



# І вочы іх былі пустыя...

Тое, аб чым я хачу распавесьці магілёўцам, здарылася днямі. Пад уражаньнем я знаходжуся й зараз.

Была пятая гадзіна дня. Мы з сябрамі сустрэліся ля будынку "Прыёрбанку", што ля ЦУМа. Мелі на мэце сабраць подпісаў супраць Статуту Саюза; адначасна меркавалі сабраць і колькі грошай для расіян, што сядзяць без пенсіяў ды заробкаў, а таксама расейскім маці, дзеці якіх забітыя ў Чачэніі.

Яшчэ толькі прыйшоўшы на мейсца сустрэчы, я заўважыў, што нас ужо чакаюць, бо ля выезду на Першамайскую стаяла белая "пяцёрка", у якой сядзеў п-к Церахаў, а побач аўтобус з сьпецпадраздзяленьнем АМАП.

Мы нават не паспелі разгарнуць наш пікет, як Церахаў загадаў праз тры хвіліны прыбрацца, а тут нас атачылі амапаўцы й узяўшы за рукі завялі ў аўтобус.

Невялікі адыход ад тэмы. Неяк мой сябра Ігар распавёў мне аб сваім уражаньні, якое так патрасло яго. Справа тычылася наступнага: аднойчы ён убачыў, як амапавец зьняў сваю фуражку і стала добра відаць лічба яе памеру. Ён усхваляванна гаварыў: "Ведаеш, там была лічба 53! І гэта пры росьце пад два мэтры! І гэта пры кулаках амаль з маю галаву!"

Седзячы ў аўтобусе й назіраючы за дзеяньнямі й паводзінамі гэтых "адборных" міліцыянтаў, я раптам злавіў сябе на тым, што ацэньваю іх бэрэты на прадмет памеру. Мой сябра меў рацыю, бо максымальны, на мой погляд, не перавышаў 54-га.

Не меней зацікавілі мяне вочы нашых канваіраў, якіх было недзе паўтара дзесятка (затрымалі яны аж сем "злачынцаў"). Два ці тры зь іх былі ў акулярах ад сонца, а ў вочы астатніх я меў мажлівасьць паглядзець. Тады я не здолеў бы перадаць свае ўражаньні так, як цяпер, бо хутка нас прывезьлі ў пастарунак й склалі пратаколы, абвінавацíўшы, па сутнасці, у намеры ўзяць удзел у аб'яўленым "усенародным абмеркаванні" Статуту Саюза.

І вось, калі я ўжо быў дома й, здавалася, адсунуў кудысь далей падзеі дня, перад вачыма, нібы ўяўная, паўстала цэлая мазаічная карціна. А яе цэльнасьць і закончанасьць жахнула сваёй непрыхаванай вастрынёй.

Я раптам усьведаміў, што вочы іх былі пустыя: аніякіх рэакцый нармальнага чалавека кшталту цікаўнасьці, пагарды, гневу ці злосьці ў іх не было. Толькі ў некаторых на тварах было штось падобнае на расчараваньне. Я спачатку не мог знайсьці яму тлумачэньня, бо, здавалася, падстаў для яго не было. Але ж потым, здаецца, знайшоў. Яны шкадавалі, што не мелі магчымасьці ўжыць дубінкі!

Іх пустыя вочы падзейнічалі на мяне болей чым пагрозы быць зьбітым. Што чакае нас, нашых дзяцей, калі такія вось "біяробаты" будуць атачаць нас. Ад каго й ад чаго яны нас абароняць? Ад чалавецкасьці? Барані Бог ад такіх ахоўнікаў! Лепш, на маю думку, бязь іх!

Мне страшна за будучыню нашай Бацькаўшчыны. А вам?

**Затрыманец.**

# Человек всегда и все выбирает сам

**В одном из недавних номеров Тыднёвика была опубликована статья М.Кастрыцы "Свае і чужыя". Она вызвала отклики. Один из них мы сегодня публикуем.**

Проблема чести и совести журналиста, президентских кадров вообще весьма важна для понимания того, что же произошло с нашим обществом в течение последних лет. Я полностью согласен с автором в оценке сегодняшней ситуации в государственных СМИ. Абсолютно разделяю мнение о тов. Киселе и Рыбакове. Более того, о последнем могу рассказать еще одну интересную историю. После победы Лукашенко на президентских выборах Егор, перед отъездом в Минск, встретил в троллейбусе двух своих знакомых. Был он "в соответствующем состоянии" и разоткровенничался. "Вы свои комсомольские билеты, небось, выбросили? Да? А я свой — нет! Он еще мне пригодится... И вообще, мы вас еще прижмем к ногтю". Его знакомые, недоумевая, улыбались, переглядывались, пожимали плечами — кому нужны теперь эти комсомольские билеты, какой там комсомол, когда на дворе демократия и свобода, кто и кого будет "прижимать"? Знал или догадывался тов. Рыбаков и о грядущем создании "лукомола" и о "прижатии к ногтю" всех недовольных, и о том, что думает его "батька" про свободу и демократию? Как мне кажется, суть подобных "личностей" в том, чтобы достигать своего благополучия любой ценой. А для этого нужно всегда "держать нос по ветру". А про такие материи как совесть, честь, порядочность разговор с ними не стоит и начинать.

Ну, а что же остальные "работники пера и магнитофона"? Ведь и в печатных изданиях, и на телевидении работает много не-лукашистов. Винить во всем "начальство" — это примерно то же, что заявлять будто во всех ужасах советского тоталитаризма виноват Сталин. Но ведь на местах "старались" конкретные люди, а тиран являлся лишь инициатором и катализатором жутких процессов. Не было бы миллионов убитых, если бы не нашлись тысячи "проводников великих идей", если бы множество людей своими руками не совершали конкретные преступления.

За последние три года почти каждому журналисту пришлось делать выбор: или согласиться делать то, что требует Лукашенко через своих ставленников, или все-таки говорить и писать правду. И большинство предпочло изменить принципам, а у многих и принципов-то никаких не было. Расталкивая друг друга, бросились "чэсныя" к корыту с "батькиным" пойлом. А на что польстились-то? Это, конечно, не значит, что за большое жалованье можно потерять и совесть, но все-таки — чего ради стараются? Я понимаю, что нельзя требовать от всех людей, чтобы они были героями. Но надо же сохранять хотя бы элементарную порядочность. Иначе лучше заниматься проституцией — в принципе, то же самое, но зато в материальном плане гораздо выгоднее.

Мои призывы, конечно, не относятся к одиозным личностям типа Киселя и Рыбакова или, недавним местным "демократам" типа Кулягина и Якубовского. А что же остальные? Мучаются, все понимают, но... семьи, дети... Но как раз ради детей и не надо способствовать укреплению диктатуры, именно ради благополучия семьи не следовало бы укреплять тоталитаризм. Ведь он не появился вдруг, он вырос на наших глазах. Надо понять: мы сами сделали "это". Именно наши родные журналисты своими руками помогли взойти на трон и помогают удерживаться там ничтожеству. Именно ради нормального будущего своих детей и не следует холуйствовать перед ним. Неужели вы хотите, чтобы ваши дети в школе попали в "ноябрята" (по месяцу проведения приснопамятного "референдума"), а затем им промывали бы мозги в "лукомоле", потом при поступлении в институт "блюстители идеи" из "Прямого действия" проверяли бы их на благонадежность?

Лично мне вообще, в принципе, интересно, почему и откуда в людях живет этот страх и лакейский конформизм. Это тема, конечно, для серьезных научных исследований с позиций политической психологии. Газетная статья может лишь обозначить проблему.

Но надежда все-таки есть. Она в том, что (по науке!) у каждого человека есть биологическая основа, которая представляет собой искреннее, трудолюбивое, склонное к сотрудничеству, любящее существо. Именно с этим и связаны надежды на то, что мы все равно сбросим с себя эту мерзость, царящую сейчас, и будем свободными людьми в демократической стране. Но желанная и естественная для нормального человека свобода не установится сама собой. Каждый, желающий ее, должен что-то сделать, чтобы она пришла. Или хотя бы не делать ничего, что мешает ее установлению.

**Виталий МАРЧЕНКО.**

# Як я разумею свабоду

Я лічу, што любы чалавек (у тым ліку і я) мае права жыць, не ўлічваючы патрэбы і законы (звычаі) грамадства, дзяржавы ці іх абодвух, але: гэткая свабода магчыма толькі тады, калі дзяржава сумесна з грамадствам існуе шмат стагоддзяў, калі ўсё ў іх даўно ўсталявалася на падмурку закона, калі людзі — свабодная нацыя. У гэтым выпадку такія паводзіны, — частка абранай мною свабоды, ніяк не змогуць разбурыць штосьці добрае, вечнае, але толькі мой асабісты лёс, магчыма, стасункі з блізкімі людзьмі. Аднак гэта ўжо будзе мая справа.

Так званая "свабода" цяпер, у нашай краіне — гэта здрада сабе, ёй, бацькам, наогул жыццю і свету. Я маю на ўвазе, што ходзячы на якую-небудзь службу, зарабляючы грошы на ежу для сям'і, не цікавячыся больш нічым, асабліва —выразным вяртаннем да сталінскіх часінаў ("мяне гэта не кранае") —чалавек назаўсёды развітваецца са сваім сумленнем і пераўтвараецца, прабачце, у пачвару. Калі гэтая элементарная рэч не зразумелая — то вельмі дрэнна. Бо праз колькі часу ты сам абавязкова трапіш у "ахвяры гісторыі". І не таму, што ты быў свабодным, а зусім наадварот.

Хай мясцовы жыхар, "незацікаўлены" тым, што адбываецца сёння ў краіне, паспрабуе ўявіць сабе, як, паміраючы ад голаду ці збіцця ў турме, ён адзначыць сваё "чэснае" жыццё ў апошнія гады, што адчуе пры ўспаміне пра дзетак, каханую, сваякоў. Многа дабра прыпас для іх? Правільна жыў? Ці пакінуў ім веданне сапраўднага шляху да праўды? Вядома, не павераць мне зараз. Якая турма? Што за "базар"? Я ж дэпутатам не быў, сваёй фірмы не маю, у мітынгах удзелу не бяру... У тым і справа, людзі, што не прымаеце: ані ўдзелу ні ў чым, ані свабоды сапраўднай.

Просты прыклад з жыцця, такі вось: "пасадзілі", скажам, якога-небудзь дырэктара, пры чым ні за што. Ну і хто, акрамя сям'і, некаторых сяброў, адвакатаў стане турбавацца, выкажа пратэст? Кепска гэта, але ў нашай краіне, на жаль, — ніхто. А дырэктара, прынамсі, замнога больш народу ведае, не тое, што рабочага ці настаўніка. Вось так і сядзіце вы, "простыя" людзі, па хатах: а можа, і не было вас па гэтых адрасах ніколі, не жылі вы тут —скажуць пасля паміж сабой суседзі. Можа, і не жылі. Калі ж ты — асоба, цябе ведаюць навокал як годнага, неабыякавага чалавека, "засадзіць" цябе проста так — значна цяжэй. Гэта для Лукі-та? — адкажаце мне. Згодзен. Але ж усе ўбачаць, калі такое здарыцца, што за "погляды", "іншадумства" пацярпеў, а гэта — незаконна! І даведаюцца аб тым перш за ўсё тыя, хто "забіраць" прыйдзе. А дзеці, бадай, і ў іх ёсць. Зусім іншая песня...

Паверце хаця б, мае гіпатэтычныя чытачы, у тое, што лепш загадзя пралічыць варыянты і заўсёды быць гатовымі да горшага. Правіла гэта — для ўсіх, і для "незацікаўленых" таксама. Лежачы на канапе пасля працоўнага дня, назіраючы за збіццём і "хапуном" сваіх лепшых землякоў па маскоўскіх тэлеканалах, можна і паварушыць звілінамі. Рызыкну сцвярджаць, што думаць і рабіць высновы лепш дома, загадзя, дзе шмат утульней, чым дзесьці ў гразі пад каваным ботам. Трэба сябе асобна вызначыць і спазнаць, што для цябе добрае, а чаго ты ніколі не хочаш каб здаралася. Увогуле — ні з табой, ні з другімі

**П.СТАНЧЫК.**

*Віртуальная рэальнасць, ці наш заўтрашні дзень?*

*Думай, народ, думай...*





